Выдавец:
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
Выдаецца са снежня 1994 года
№ 40 (1069) 1 кастрычніка 2020 года.
Кошт свабодны.

Штотыднёвая газета
vglybokaye@tut.by
vglybokaye.by

# Вольнае Глыбокае



ISSN 2077-8023






**У Глыбокім прайшла навукова-практычная канферэнцыя «Беларусь, Глыбоцкі край і Эдвард Вайніловіч». Канферэнцыя праводзілася ў рамках выканання дзяржаўнай праграмы навуковых даследванняў на 2016-2020 гг. «Эканоміка і гуманітарнае развіццё беларускага грамадства».** *Фота Леаніда Юрыка.* Працяг на стар. 5.



## Першую партыю электрамабіляў плануюць выпусціць у 2021 годзе

**У Беларусі разлічваюць выпусціць першую партыю электрамабіляў у 2021 годзе, паведаміў сёння журналістам першы намеснік міністра прамысловасці Сяргей Гунько, піша БЕЛТА.**

*«Для арганізацыі вытворчасці электрамабіляў, любой вытворчасці, неабходная досыць сур'ёзная падрыхтоўка, фінансавыя рэсурсы, акупнасць.*

*Мы не бачым пакуль такой эканамічнай эфектыўнасці. Аднак нават з улікам гэтага пастаўілі задачу ў наступным годзе арганізаваць вытворчасць ад 500 да 1000 штук»,* — сказаў Сяргей Гунько.

Паводле яго слоў, ёсць шмат тэхнічных задач і праблем, звязаных з праграмным забеспячэннем, наяўнасцю дастатковай зараднай інфраструктуры. Праблемай з'яўляецца і падзенне зараду акумулятараў пры паніжэнні тэмпературы ў зімовы сезон.

*БелТА.*

## Біржа: долар і еўра сур'ёзна выраслі на таргах у панядзелак

**Амерыканская і еўрапейская валюты сур'ёзна ўмацаваліся на таргах Беларускай валютна-фондавай біржы ў панядзелак, 28 верасня.**

Тры асноўныя замежныя валюты першыя на гэтым тыдні сесіі завяршылі з наступнымі паказчыкамі: долар – 2,6264 беларускага рубля (0,0272 пункта); еўра – 3,057 беларускага рубля (0,0251 пункта); расійскі рубель – 3,3365 беларускага рубля за 100 расійскіх (-,0448 пункта). На мінулым рабочым тыдні (21-25 верасня) толькі дзве з пяці замежных валют, за якімі назіраюць Naviny.by, умацавалі свае пазіцыі, тры іншыя – падаюць ужо трэці тыдзень запар. Раней паведамлялася, што за студзень-чэрвень 2020 года знешнеэканамічныя адносіны Беларусі з астатнім светам склаліся з дэфіцытам рахунку бягучых аперацый за 1,1 млрд долараў (3,9% ВУП)

*Naviny.by.*

## Глыбоцкі раён

# Помсцяць подла і нізка

■ Станіслаў Раманчук.

**Пагрозы галоўнага беларускага начальніка "разабрацца" з усімі незадаволенымі аказаліся не пустым гукам.**

З пачатку выбарчай кампаніі ў нашай краіне было затрымана звыш 12 тысяч чалавек. Падобных паліцэйскіх аперацый і масавага хапуна не бачылі на кантыненце з часоў II Сусветнай вайны. У турмах аказваюцца беларусы розных узростаў і прафесій, ад падлеткаў да ветэранаў. Сярод іх нядаўна трое сутак адседзела ў следчым ізалятары Глыбокага знакамітая далёка за межамі райцэнтра 58-гадовая пенсіянерка Людміла Барэйка. Напрыканцы сакавіка яе шчырае выступленне аб праблемах земляхоў прагледзелі на ютуб-канале "Страна для жизни" каля 1,5 млн. чалавек. Але не толькі Людмілу, яшчэ мужчыну, хто не пабаяўся тады адкрыта пагаварыць аб набалелым, суд неўзабаве ў маі аштрафаваў, а журналіста З. Лупача пакараў яшчэ 10 суткамі арышту. Ужо пасля выбараў многія глыбачане і не толькі выйшлі на вуліцы на шэсці і пікеты. З такімі "хуліганамі" цяпер зноў разбіраюцца і складаюць пратаколы за нібыта парушэнне парадку арганізацыі або правядзення масавага мерапрыемства. Напрыканцы лета на гэту пенсіянерку склалі пару пратаколаў і зноў аштрафавалі на 594 рублі. Аднак на гэтым смелую жанчыну ў спакоі не пакінулі. Пазней яе па павестцы выклікалі ў райаддзел міліцыі для складання новага пратакола. У мясцовы РАУС яна не дайшла, бо ў той самы дзень каля райсуда была затрымана міліцыянерамі на 72 гадзіны. Трое сутак правяла глыбачанка ў камеры, бо актыўна хадзіла на мірныя акцыі пратэсту ў родным горадзе. Самае прыкрае, што калі прадавец кветак была за кратамі, невядомыя позна вечарам моцна збілі яе малодшага 17-гадовага сына студэнта, якога паклалі ў бальніцу з сатрасеннем мозгу.

## Пастаўскі раён

# Палкоўнік стаў "злачынцам"

■ Станіслаў Раманчук.

**Яшчэ вясной у Беларусі быў запушчаны механізм масавых рэпрэсій і беззаконня, каб супрацьстаяць, па афіцыйнай версіі, нібыта "знішчэнню нашай краіны".**

А ў пачатку лета чарговай ахвярай атак на апанентаў улад стаў ураджэнец гарпасёлка Варапаева, што ў Пастаўскім раёне, Андрэй Новікаў. Ён грамадзянін Расіі, пасля школы паехаў на яе далёкі Усход, а перад выхадам на пенсію завяршыў службовую кар'еру ў званні палкоўніка паліцыі РФ у адстаўцы. Але 5 гадоў назад пацягнула дамоў, набыў дом у вёсцы Прусы, абжыўся там з жонкай і дзвюма дочкамі. Праз некаторы час пераканаўся, што на роднай зямлі пануе шмат несправядлівасці, глыбінка ў глыбокім крызісе. Пра мясцовыя праблемы экс-палкоўнік вясной адкрыта расказаў у відэа блогеру С. Ціханоўскаму, а неўзабаве далучыўся да ініцыятыўнай групы яго жонкі Святланы. Як аўтарытэтную і небяспечную фігуру, былога сілавіка было вырашана ў вярхах пасля правакацыі ў Гродне таксама затрымаць па падобнай справе. Андрэй нічога крымінальнага не рабіў, быў у ініцыятыўнай групе С. Ціханоўскай, збіраў за яе подпісы. Аднак у роднай вёсцы актывіста затрымала цэлая група міліцыі і ён міжволі стаў чарговым палітычным зняволеным. Свой 50-гадовы юбілей А. Новікаў сустрэў у адным са сталічных СІЗА. Працяглы час былы палкоўнік проста там сядзіць у камеры, ніякіх актыўных следчых дзеянняў з ім, а таксама з іншымі затрыманымі апазіцыянерамі, не праводзяцца. Вось толькі старыя яго і хворыя бацькі часта плачуць ад пануючай несправядлівасці. У гэтай мясцовасці, дарэчы, вельмі шмат галасоў на выбарах людзі аддалі за Святлану Ціханоўскую, а на самых першых тут пераканаўчую перамогу атрымаў Зянон Пазняк.

## Полацкі раён

# З возера – за краты

■ Чэслаў Якубовіч.

**У пачатку заўжды ўраджайнай восені наступае гарачая пара ў супрацоўнікаў аховы прыроды.**

У гэты час года актывізуюцца браканьеры за дкрыццём актыўнага паляўнічага сезона і атрымання дазволаў на здабычу жывёл стрэльбамі і безружэйным способам. Таксама і на водных угоддзях людзі актыўна ловяць рыбу, але не ўсе законнымі спосабамі. Прыкры інцыдэнт адбыўся днямі на возеры Белым Полацкага раёна, а двое яго ўдзельнікаў сталі фігурантамі распачатай крымінальнай справы. У той цёплы сонечны дзень у мясцовую інспекцыю аховы жывёльнага і расліннага свету па тэлефоне паведамілі, што двое браканьераў на лодцы сталі здабываць улоў сеткамі. На месца здарэння прыбыў інспектар, каб скласці адпаведны пратакол. Адзін з мужчын паспрабаваў выкінуць у ваду незаконна вылаўленую рыбу. Падчас далейшай разборкі з супрацоўнікам інспекцыі жыхар Полацка стаў дзейнічаць вельмі агрэсіўна, палез у бойку. Ён не толькі нанёс інспектару некалькі ўдараў, але і распыліў апаненту ў твар з балончыка пярцовы газ. Яго напарнік у канфлікт не ўмешваўся і толькі назіраў за супрацьстаяннем. Прыйшлося інспектару вадаём пакінуць, але ён паведаміў аб здарэнні ў міліцыю і аб прыкметах ваяўнічага браканьера. Аператыўнікі неўзабаве абодвух гора-рыбакоў затрымалі. Следчы камітэт цяпер вядзе справу адразу па двух артыкулах. Па адным з іх вінаватыць абодвух фігурантаў у незаконнай здабычы рыбы. А вось таму, хто распусціў кулакі і атакаваў службовую асобу пры выкананні яе абавязкаў, можа сур'ёзна не паздаровіцца. Гэты браканьер ужо знаходзіцца пад вартай і можа апынуцца ў турме. Яго таварыш на волі, але з'яўляецца падазроным, можа быць пакараны вялікім штрафам.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5.ru

| | Чацвер 01.10.20 | | | | Пятніца 02.10.20 | | | | Субота 03.10.20 | | | | Нядзеля 04.10.20 | | | | Пд.05 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +10 | +10 | +17 | +13 | +11 | +11 | +17 | +13 | +12 | +12 | +15 | +14 | +13 | +14 | +17 | +16 | +14 |
| Ціск | 745 | 745 | 746 | 747 | 747 | 747 | 748 | 748 | 748 | 749 | 749 | 749 | 748 | 747 | 747 | 748 | 748 |
| Вецер м/сек | 4 У | 5 У | 7 У | 5 Пд-У | 4 У | 5 У | 6 Пд-У | 6 У | 5 Пд-У | 5 Пд-У | 6 Пд-У | 5 Пд-У | 6 Пд-У | 7 Пд-У | 8 Пд-У | 8 Пд-У | 7 Пд-У |
| Вільготнасць | 86 | 79 | 54 | 75 | 91 | 90 | 59 | 75 | 96 | 96 | 84 | 90 | 92 | 92 | 76 | 90 | 93 |

# ЖОРСТКІЯ РЭПРЭСІІ БЕЛАРУСКІХ УЛАД СУПРАЦЬ СВАЙГО НАРОДА ВЫКЛІКАЮЦЬ РЭЗКА НЕГАТЫЎНУЮ РЭАКЦЫЮ ВА ЎСІМ СВЕЦЕ



**Між тым, толькі за апошні месяц у Беларусі былі затрыманы 174 журналісты, з іх над 52 глуміліся садысты і збівалі. Усяго ж сёлета ў нас пацярпелі 400 работнікаў розных СМІ, уключаючы саміх лаяльных расійскіх. У многіх з іх забралі, альбо паламалі тэхніку, усіх пакаралі ўнушальнымі штрафамі. Што тады казаць аб іншых простых людзях.**

■ Аляксандр Цішкевіч.

Ніколі дагэтуль працяглыя драматычныя падзеі пасля псеўдавыбараў у Беларусі не выклікалі такую вялікую ўвагу ўсяго чалавецтва і вядучых СМІ свету. Нават другая хваля каранавіруса на кантыненце і магчымы рост колькасці памерлых з-за віруса, наступствы атраўлення А. Навальнага і адмовы ад газаправода "Паўночны паток-2" былі на другім плане пасля асвятлення таго жаху, што адбываецца на зямлі беларускай. Навіны з нашай краіны ішлі суцэльным патокам, толькі паспявай за ўсімі адсачыць. Сярод іх мяне найбольш зацікавіла, што наш нязменны правіцель стаў ужо двойчы лаўрэатам абсурднай Шнобелеўскай прэміі міру.

Упершыню так А. Лукашэнку адзначылі ў 2013 годзе за яго загад забараніць "публічныя апладысменты". На гэты раз галоўны беларускі начальнік-хакеіст стаў псеўда-лаўрэатам у ліку яшчэ васьмі сваіх калег у свеце, якія "вызначыліся" сваімі дурнымі адносінамі да пандэміі і ўказаннямі лічыць яе псіхозам, у адрозненне ад вучоных і медыкаў, якія ведалі аб страшнай небяспецы гэтага віруса для людзей. А колькі нерваў у Рыгоравіча забрала яго нядаўняя сустрэча з Пуціным у Сочы. Тады проста агідна было глядзець, як ён там прагібаўся, выцягваў ногі, каб быць бліжэй да свайго старэйшага зноў брата, прыйшоўшага на дапамогу. Пасля гэтага ўжо на дэбатах у Жэневе ў Савеце ААН па правах чалавека назвалі сітуацыю ў Беларусі "катастрафічнай" і заклікалі не дапусціць з'яўлення другой жалезнай заслоны ў Еўропе. У вачах не толькі многіх суайчыннікаў, але і еўрапейцаў, стары беларускі лідар становіцца ўсё больш смешным і нікчэмным ілгуном, які страціў усялякі давер да сваёй асобы. Чаго вартыя былі яго хлуслівыя заявы аб тым, што АМАП нікога не крыўдзіў, над затрыманымі не здзекваўся і не збіваў, а інфармацыю аб гэтым назваў правакацыяй сваіх працаўнікаў.

Між тым, толькі за апошні месяц у Беларусі былі затрыманы 174 журналісты, з іх над 52 глуміліся садысты і збівалі. Усяго ж сёлета ў нас пацярпелі 400 работнікаў розных СМІ, уключаючы саміх лаяльных расійскіх. У многіх з іх забралі, альбо паламалі тэхніку, усіх пакаралі ўнушальнымі штрафамі. Што тады казаць аб іншых простых людзях. Прыкра і горка, але і ў сярэдзіне верасня садысты ў балаклавах маглі затрымаць любога. Так яны паступілі з адным маладым мінчанінам. Не спадабалася звярам у чалавечым абліччы яго куртка, палічылі арганізатарам пратэстаў з Варшавы і збілі ледзь не да паўсмерці, бо адчувалі сябе беспакаранымі.

Аднак каля 30 буйнейшых краін свету асудзілі адключэнне інтэрнэту ў Беларусі і ўведзеныя абмежаванні на мірныя сходы, маніфестацыі і свабоду меркаванняў людзей. Адначасова з рэзкай заявай выступіў дзяржсакратар ЗША М. Пампеа, які заявіў аб падтасоўцы вынікаў выбараў у Беларусі, асудзіў рэпрэсіі ў нас і аб'явіў, што цывілізаваны свет не будзе з гэтым мірыцца, увядзе жорсткія санкцыі супраць беларускага рэжыму і яго памагатых разам з еўрапейцамі. Гэта не проста словы, рэакцыя Захаду на беззаконне і падман на нашай зямлі будзе адпаведнай. А як інакш, калі ў беларускай сталіцы пачалі ўстанаўліваць бацькоў (выпісалі нават 140 афіцыйных папяроджанняў), якія выходзілі на мітынгі проатэсту разам з дзецьмі.

Лукашэнка хоць і крыху прыйшоў у сябе, бадзёрыцца на публіцы і працягваў застрашваць сваіх ворагаў, але дзейнічаў усё больш неадэкватна. Яму сталі раіць, як сябе паводзіць у патавай сітуацыі, паліттэхнолагі з Крамля, а на дзяржтэлеканалах сталі правіць баль прысланыя з Масквы правераныя прапагандысты з РТ. Але ж без збояў не абышлося. Вось пакрыўдзілі лепшага айчыннага трэнера па фрыстайлу, пазбавілі стыпендыі і фактычна развалілі наш самы медалеёмкі від спорту на зімовых Алімпіядах. У вялікім спорце і іншых сферах вялікі раскол, палітычны крызіс толькі разрастаецца, а надаеўшы многім правіцель няўдала назваў С. Ціханоўскую "гуайдзіхай".

Пасля жорсткай рэзалюцыі Еўрапарламента аб непрызнанні Лукашэнкі законным прэзідэнтам ён на пастановачным жаночым контрфоруме ляпнуў аб вымушаным закрыцці граніц з Польшчай і Літвой і ўзмацненні аховы граніц з Украінай. У сваім імкненні захаваць сінеючымі пальцамі кіруючае крэсла фактычна пацвердзіў, што гатовы аб'явіць вайну не толькі свайму народу, але і бліжэйшым суседзям. Падобныя рашэнні і рэпрэсіі, якія ўзмацніліся, гавораць не аб сіле, а хутчэй аб слабасці правячага рэжыму, адрыве галоўных начальнікаў ад суровай для іх рэальнасці. У яго будучага няма, бо да 90 % толькі беларускіх студэнтаў не падтрымліваюць уладу.

А АБСЕ вырашыла накіраваць да нас экспертаў, каб разабрацца з дрэннай сітуацыяй з правамі чалавека.

# Урад уводзіць змены па камандзіроўках

■ FINANCE.TUT.BY

**Саўмін уводзіць новаўвядзенні па камандзіровачных выдатках. Змены датычацца парадку пакрыцця расходаў па найме жылля. Гэта прадугледжана пастановай урада № 550 ад 22 верасня.**



Індывідуальныя прадпрымальнікі і арганізацыі незалежна ад формы ўласнасці (акрамя бюджэтных), якія адпраўляюць сваіх работнікаў у камандзіроўкі, самастойна прымаюць рашэнне аб кампенсацыі выдаткаў па найме жылога памяшкання. Зрабіць гэта трэба як на падставе пацвярджаючых дакументаў, так і без іх прадстаўлення. Але калі без дакументаў, то ёсць абмежаванні. Гэта тычыцца як камандзіровак па краіне, так і за мяжу, удакладняюць у Мінпрацы.

«Пры адсутнасці дакументаў, якія пацвярджаюць выдаткі за час камандзіравання (выключэнне - час знаходжання ў дарозе), пакрываюцца ў памеры, які не перавышае 20%, але не менш за 5% памераў кампенсацыі гэтых выдаткаў (канкрэтны памер кампенсацыі выдаткаў усталёўваецца наймальнікам у лакальным прававым акце)», - тлумачаць на нацыянальным прававым інтэрнэт-партале. Прасцей кажучы, кампенсацыя ад 5% да 20% ад выдаткаванай на пражыванне сумы.

Бюджэтныя арганізацыі выдаткі на арэнду жылля пры камандзіроўках па краіне павінны будуць кампенсаваць на падставе пацвярджаючых дакументаў. Пры іх адсутнасці - у памеры 5% памераў кампенсацыі гэтых выдаткаў.

Пастанова № 550 уступае ў сілу праз 10 дзён пасля афіцыйнага апублікавання. Яна будзе прымяняцца «да адносін, якія ўзніклі пры накіраванні ў службовыя камандзіроўкі з дня ўступлення яго ў сілу».

Раней у сакавіку 2019 года ўрад змяніў схему кампенсацыі расходаў па найме жылога памяшкання. Пацвярджаючыя дакументы па гэтых навінах патрэбныя былі толькі ў тым выпадку, калі сума перавышае ўстаноўленыя ліміты. Але сума кампенсацыі ў такім разе не магла перавышаць кошт аднамеснага нумара ў гасцініцы пражывання. Да гэтых змяненняў расходы па найме жылля ў камандзіроўцы кампенсавалі ў межах кошту аднамеснага нумара ў гасцініцы. Але абавязкова патрабаваліся пацвярджаючыя дакументы.

## Дзень за днём

**Літва з Польшчай заклікалі правесці новыя свабодныя выбары. За выхадныя толькі ў Мінску затрымалі звыш 600 чалавек. СМІ падвяргаліся рэпрэсіям 200 разоў. Пуцін паабяцаў Лукашэнку крэдыт на 1,5 млрд. USD. Польшча прапанавала “план Маршала для Беларусі”. Генпракуратура прыгразіла, што ў пратэстуючых могуць забраць дзяцей. Пайшла барацьба з нацыянальнай сімволікай. На БТ сталі працаваць 32 журналісты з Расіі. МУС прызнаў “несапраўдным” пашпарт Мітрапаліта Т. Кандрусевіча. У яго “справу” ўключыўся Ватыкан. З асуджэннем гвалту выступілі каля 100 вядучых футбалістаў і ігракоў зборнай Беларусі.**

# Важнейшыя навіны свету

**Францыя.** Глава дыпмісіі ЕС Ж. Барэль заявіў, што Еўрасаюз не лічыць Лукашэнку законным прэзідэнтам Беларусі з-за фальсіфікацый на выбарах, увядзём санкцыі.

**ЗША.** Намеснік дзяржсакратара С. Біген заявіў, што беларускі народ адхіліў Лукашэнку і ён стаў нелігітымным, Расія не павінна яго падтрымліваць, санкцыі ўвядзём з ЕС.

**Расія.** Прэс-сакратар Пуціна Д. Пяскоў адмовіўся разважаць, што будзе рабіць Крэмль, калі Лукашэнка не здолее ўтрымацца пры ўладзе і вымушана падасць у адстаўку.

**Украіна.** Прэзідэнт У. Зяленскі ў размове з канцлерам ФРГ А. Меркель заявіў, што ўкраінцы, як і ЕС, не прызнаюць вынікаў прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі.

**Літва.** Сейм краіны прызнаў С. Ціханоўскую “выбраным лідарам народа Беларусі”, а А. Лукашэнку – незаконным прэзідэнтам, прыгразіў Расіі санкцыямі ў выпадку яе анексіі.

**Чэхія.** Глава МЗС Т. Петршычак заявіў, што беларусы абудзіліся ад палітычнай апатыі, Лукашэнка не разумее, што адбываецца ў краіне, трэба прымусіць яго да перамоў.

**Эстонія.** Прэзідэнт К. Кальюлайд папярэдзіла кіраўнікоў Беларусі, што яны могуць апынуцца ў Міжнародным крымінальным судзе ў Гаазе за гвалт над мірнымі людзьмі.

**ФРГ.** Урад краіны прыняў меры па забеспячэнні захаванасці доказаў атраўлення расійскага апазіцыянера А. Навальнага забароненым хімічным баявым рэчывам.

**Польшча.** Глава касцёла на Беларусі, арцыбіскуп у выгнанні Т. Кандрусевіч моцна абурыўся, што яго не пускаюць на радзіму, напісаў скаргі ў МУС і Генпракуратуру РБ.

**ЗША.** Нават год пратрымацца Лукашэнку пры ўладзе з дапамогай сілы, як заявіў прафесар Чыкагскага ўніверсітэта К. Сонін, будзе цяжка, беларусам пагражае глыбокі крызіс.

**Латвія.** Адразу 12 IT-кампаній з Беларусі вырашылі перанесці сваю дзейнасць у краіну, туды пераедуць 470 ключавых спецыялістаў, яшчэ каля 100 фірм думаюць пра гэта.

**Расія.** Падтрымаць Беларусь у РФ няма каму, як заявіў пісьменнік В. Ерафееў, руская інтэлігенцыя маўчыць, бо яе болей не існуе, па сутнасці ў нас няма і народа, рэжым гнілы.

**Туркменістан.** У школах сталіцы закрылі рускія класы з-за каранавіруса, бо ў іх вучыліся па 40-50 вучняў і не вытрымліваліся санітарна-гігіенічныя меры, закрыты рускія школы.

**Польшча.** Урад вырашыў, што з 2021 года мінімальная зарплата палякаў вырасце да 629 еўра ў месяц (або 2800 злотых), падобны паказчык у Беларусі толькі 122 еўра.

**Швейцарыя.** Алімпійская чэмпіёнка Н. Скардзіна заявіла аб падтрымцы беларусаў у іх барацьбе з гвалтам і беззаконнем, адсутнасць дыялогу – гэта шлях у нікуды, Беларусь дно.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Новы глава БПЦ, мітрапаліт Веньямін заявіў, што нам трэба пачаць жыць з новага аркуша, патрэбны і новая Канстытуцыя, новыя выбары, каб больш было родных моў.

**Гродна.** А. Лукашэнка загадаў адвесці беларускую армію ад заходняй граніцы, бо каштуе такая перадыслакацыя войск нятанна, а НАТО ў Літве, Польшчы скончылі вучэнні.

**Мінск.** Старшы віцэ-прэзідэнт ЕРАМ М. Баграцоў заявіў, што ўлады груба парушылі кантракт з беларусамі, вядома ніхто гэта не даруе, пратэст будзе ў розных формах.

**Салігорск.** Пасля прызнання Мінскім абласным судом незаконнай 2-дзённай забастоўкі на “Беларуськаліі” абпракуратура прыгразіла выявіць урон і спагнаць з вінаватых.

**Жодзіна.** У аднаго з лідараў апазіцыі М. Калеснікавай у мясцовай турме пачался алергія, бо яе ў камеры забяспечылі не надта свежай пасцельнай бялізнай, узмацніўся кашаль.

**Дразды.** Суседзі і ЦВК пацвердзілі, што з пачатку лета Л. Ярмошына перастала тут жыць у сваім катэджы, да яго прыйшлі да тысячы пратэстуючых, былі сутычкі з АМАПам.

**Гомель.** Пасля Марша герояў настолькі жорстка дзейнічалі байцы АМАПа, што моцна пашкодзілі нагу 22-гадовай медсястры, яна напісала заяву на гвалт і збіццё садыстаў.

**Мінск.** Вынікам адсутнасці ў нас права, як папярэдзіў эканаміст С. Чалы, можа стаць пераўтварэнне краіны ў бандыцкую дзяржаву, але насілле не выратуе эканоміку.

**Магілёў.** Праз 4 месяцы ў лясным масіве ля горада знайшлі труп прапаўшага 62-гадовага галоўнага канструктара “Магілёўліфтмаша” І. Балабанава, ішло следства аб карупцыі.

**Брэст.** ААТ “Савушкаў прадукт” выйграў 3-ці суд з расійскай кампаніяй Danone за быццам незаконна перапрацаваны дызайн яе ўпакоўкі ёгуртаў, іск быў на 1,35 млн. USD.

**Буда-Кашалёва.** У стане алкагольнай комы паклалі ў бальніцу 10-гадовую дзяўчыну, якая выпадкова выпіла алкаголь, які бацькі захоўвалі ў бутэльцы з-пад ліманаду.

**Гродна.** Масавы Марш герояў у абласным цэнтры завяршыўся жорсткімі затрыманнямі гараджан, у Брэсце для разгону мірных людзей увогуле міліцыя прымяніла вадамёты.

**Рагачоў.** У адной з вёсак раёна 50-гадовая жанчына з-за рэўнасці абліла бензінам і падпаліла былога мужа, паспрабавала скончыць жыццё самагубствам, пойдзе пад суд.

**Гомель.** Абвастрылася абстаноўка на ўкраінскай граніцы тут і ў раёне Пінска, беларусы прапусцілі звыш тысяч яўрэяў-паломнікаў, а ўкраінцы не сталі пускаць з-за каранавіруса.

**Раўбічы.** За асуджэнне гвалту пасля выбараў самага паспяховага беларускага трэнера па фрыстайлу М. Казеку пазбавілі імяннай прэзідэнцкай стыпендыі з вяртаннем грошай.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Полацк.** Вядомы ў вобласці прадпрымальнік У. Захараў папярэдзіў, што ў эканоміцы набліжаецца калапс, адчуваецца вялікі недабор грошай, банкі не ведаюць, дзе іх узяць.

**Віцебск.** За ўдзел падчас абеду ў ланцугах салідарнасці і маўклівых пікетах аштрафавалі 4 з затрыманых 6-ці студэнтаў ветакадэміі, адну дзяўчыну адлічылі з ВНУ.

**Верхнядзвінск.** Глава вобласці М. Шарстнёў адкрыў у ААТ “Шайцерава” пасля мадэрнізацыі сучасны мясаперапрацоўчы цэх , выпуск прадукцыі вырас да 7 тон у суткі.

**Докшыцы.** Да прадстаячай зімоўкі ўпершыню ў ААТ “Бягомльскае” ўпакавалі звыш 1600 тон сенажу ў стрэтч-плёнку, купілі 200 высокаўдойных маладых кароў-нецеляў.

**Паставы.** Настаўніка гімназіі, краязнаўцу І. Пракаповіча прызналі лепшым публіцыстам краіны за кнігу “Пастаўшчына”, узнагародзілі Нацыянальнай літаратурнай прэміяй.

**Глыбокае.** Вопытны лясгас прапанаваў прысвоіць свайму дэндрасаду з 504 відамі дрэў з усіх кантынентаў свету імя яго заснавальніка, заслужанага лесавода Беларусі В. Ламакі.

**Браслаў.** Ноччу на возеры Дрысвяты ў 50 метрах ад граніцы пагранічнікі затрымалі літоўца без дакументаў на маторнай лодцы, у ёй была схавана партыя кантрабанды.

**Гарадок.** З дапамогай выратавальнікаў вярнуліся дамоў пажылыя муж і жонка, якія ў грыбах заблудзіліся ў лесе за вёскай Евіна, за суткі МНС знайшло 5 такіх рабінзонаў.

**Мёры.** На працягу шасці дзён у райцэнтры, візітцэнтры заказніка “Ельня”, у школах раёна праходзіў экалагічны фестываль “Жураўлі і журавіны Мёрскага краю”.

**Віцебск.** Ужо 800 пацыентаў прайшлі медыцынскую рэабілітацыю пасля перанесенай хваробы каранавіруса ў філіяле дыягнастычнага цэнтра і ў шпіталі інвалідаў вайны.

**Полацк.** Па старажытным абрадзе прайшло пасвячэнне ў студэнты 800 першакурснікаў мясцовага дзяржуніверсітэта, кожны з іх распісаўся ў спецыяльнай кнізе ВНУ.

**Ушачы.** Вечарам з-за неасцярожнасці пры курэнні 63-гадовы мужчына ў вёсцы Капылоўшчына спаліў уласны дом і 2 гаспадарчыя пабудовы, сам ён не пацярпеў.

**Орша.** Даверлівага 42-гадовага мужчыну падманулі махляры нібыта са службы бяспекі банка, знялі з яго карткі звыш 2 тысяч рублёў, усяго так пацярпела сёлета 10 гараджан.

**Вярэнькі.** На прасёлачнай дарозе да вёскі Батвінавічы 31-гадовы кіроўца VW-Paasat вечарам ударыўся ў дрэва, зляцеў у кювет, пашкодзіў аўто і быў паранены.

**Расоны.** Супраць 38-гадовага жыхара Наваполацка распачалі крымінальную справу, ноччу ён падпаліў іншамарку былой сужыцелькі, яна адмовілася працягваць адносіны.

*Служба інфармацыі “ВГ” (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# У Беларусі зацверджаны нормы расходаў на ЖКП на 2021-2023 гады

**У Беларусі зацверджаны нормы і нарматывы расходаў на жыллёва-камунальныя паслугі на 2021-2023 гады. Гэта прадугледжана пастановай Мінжылкамгаса ад 11 верасня 2020 года нумар 16, якая афіцыйна апублікавана сёння на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале, паведамляе БЕЛТА.**

Згодна з дакументам, нормы накладных расходаў вызначаны для арганізацый, якія ажыццяўляюць эксплуатацыю жыллёвага фонду і (або) прадастаўляюць жыллёва-камунальныя паслугі, акрамя арганізацый сістэмы Мінэнерга. Так, на ўласнае халоднае водазабеспячэнне гэта норма на 2021 год вызначана ў памеры не больш за Br0,1663 на 1 куб.м рэалізаванай вады, на 2022 год – не больш за Br0,1741, на 2023 год - не больш за Br0,1822. За ўласнае водаадвядзенне (каналізацыю) вызначаны наступныя нарматывы расходаў: не больш за Br0,1271 на 1 куб.м адведзеных сцёкаў у каналізацыю ў 2021 годзе, не больш за Br0,1331 у 2022 годзе і не больш за Br0,1393 у 2023 годзе. За ўласнае цеплазабеспячэнне і гарачае водазабеспячэнне ў наступным годзе норма расходаў складзе не больш за Br9,7811 на 1 гігакалорыю рэалізаванай цеплавой энергіі, у 2022 годзе - не больш за Br10,2408, у 2023 годзе - не больш за Br10,7221. Пастановай таксама зацверджаны нарматывы расходаў за тэхнічнае абслугоўванне жылога дома, абыходжанне з цвёрдымі камунальнымі адходамі і тэхабслугоўванне ліфтаў.

Акрамя таго, вызначана, што нарматывы тэхналагічных страт цеплавой энергіі павінны складаць не больш за 9,8 працэнта на 2021 год, 9,6 працэнта на 2022 год і 9,4 працэнта на 2023 год. А нормы страт і няўлічаных расходаў вады будуць не большымі за 12 працэнтаў.

Пастанова ўступае ў сілу пасля яе афіцыйнага апублікавання.

*БелТА.*





**27 верасня ў гарадах краіны прайшлі 22 пратэсныя акцыі, заявіла прэс-служба МУС. Усяго за той дзень па краіне затрымана звыш за 350 чалавек да разгляду ў судзе спраў па адміністрацыйных правапарушэннях.**

Найбольшая пратэстная акцыя нязгодных з вынікамі апошніх прэзідэнцкіх выбараў прайшла ў мінулую нядзелю ў Мінску, на якую, па розных ацэнках выйшла больш за 100 тысяч жыхароў сталіцы. Гэта быў 50-ты дзень беларускай рэвалюцыі.

27 верасня, ва ўсіх пратэстных гарадах, была праведзена народная інаўгурацыя ў прэзідэнты Беларусі Святланы Ціханоўскай, якая, па пераканні шматлікіх пратэстоўцаў Беларусі, перамагла на гэтых выбарах у першым туры з упэўненай перамогай – 70-80 адсоткаў.

У гэты дзень не абышлося без затрыманняў і ў Глыбокім. Як паведаміла глыбоцкая журналістка Тацццяна Смоткіна, – сёння (27.09) каля 13.30 - 14.00 міліцыянты затрымалі майго мужа Смоткіна Арнольда, калі ён выходзіў з касцёла. Склалі на яго пратакол за ўдзел у несанкцыянаваных акцыях. І зараз яго адвезлі ў Глыбоцкі РАУС для гутаркі, Ён паспеў мне патэлефанаваць і паведаміць пра гэта. Невядома, выпусціць сёння ці пакінуць на суткі да суда, як гэта было раней з некаторымі пратэстоўцамі.

*Ул. Скрабатун.*

# Падчас «Дажынак» згарэў камбайн у Верхнядзвінскім раёне

**26 верасня, пакуль у Віцебску святкавалі «Дажынкі», у рэгіёне згарэў чарговы камбайн, на гэты раз – у Верхнядзвінскім раёне.**

Як паведамляе МНС, у 15:59 загарэўся кормаўборачны камбайн КВК-800 «Палессе FS80», які належыць КУПСХП «Дрысенскі». Пажар адбыўся падчас сельскагаспадарчых работ у полі каля вёскі Сар'я. У выніку загарання агнём былі пашкоджаны задняя колы і маторны адсек.



Людзі на пажары не пацярпелі. Прычына загарання вызначаецца.

Як ужо паведамлялася, такі ж кормаўборачны камбайн згарэў 9 верасня ў Гарадоцкім раёне. Пажары збожжаўборачных камбайнаў КЗС-1218 «Палессе» адбыліся **3 жніўня ў Глыбоцкім раёне і 22 верасня ў Аршанскім раёне.**

*ННВ.*

# Колькасць памерлых ад каранавіруса ў свеце перавысіла 1 млн.

**Такія даныя праводзіць партал Worldometers, паведамляе БЕЛТА.**

З пачатку пандэміі COVID-19 ахвярамі сталі 1 007 765 чалавек. Усяго зафіксавана 33 306 422 выпадкі заражэння, выздаравелі 24,8 млн. чалавек.

Больш за ўсё інфіцыраваных у ЗША - 7,3 млн (памерлі – 209,4 тыс., выздаравелі – 4,5 млн). У Індыі зафіксавана больш за 6 млн выпадкаў заражэння (памерлі – 95,5 тыс., выздаравелі – больш за 5 млн), у Бразіліі інфіцыравана больш за 4,7 млн чалавек (памерлі - 141,7 тыс., выздаравелі – больш за 4 млн).

У Расіі зафіксавана больш як 1,1 млн выпадкаў заражэння COVID-19 (памерлі – 20,3 тыс., выздаравелі – 943 тыс.).

*БелТА.*

# У Беларусі выздаравелі і выпісаны 74120 пацыентаў з COVID-19

**У Беларусі на 27 верасня выздаравелі і выпісаны 74 120 пацыентаў, у якіх раней быў пацверджаны дыягназ COVID-19. Аб гэтым БЕЛТА паведамілі ў прэс-службе Міністэрства аховы здароўя.**

Зарэгістраваны 77 609 чалавек са станоўчым тэстам на COVID-19. Усяго праведзены 1 825 481 тэст.

За ўвесь перыяд распаўсюджвання інфекцыі на тэрыторыі краіны памерлі 818 пацыентаў з шэрагам хранічных захворванняў з выяўленай каранавіруснай інфекцыяй.

*БелТА.*

Актуальна

# Расслабляцца зноў не варта



**Уладзімір Шык,** *журналіст, г. Паставы.*

**Спадзяванні многіх людзей на тое, што ў самую спрыяльную і цёплую пару года пандэмія каранавіруса пойдзе на спад, на жаль, не спраўдзіліся.**

У другой палове мінулага лета ў многіх краінах Еўропы, свету і ў нашых прыбалтыйскіх суседзяў зноў сталі фіксавацца ўспышкі Covid-19. З-за другой хвалі гэтай заразы суседняя Украіна яшчэ з апоўначы 28 жніўня закрыла свае граніцы для замежных грамадзян. Падобным чынам першай у ЕС павяла сябе і Венгрыя. Ды і на роднай беларускай зямлі людзі розных узростаў працягвалі хварэць страшнай хваробай.

Лік інфікаваных у нас набліжаўся да 75 тысяч чалавек, а колькасць памерлых перавысіла, па афіцыйных дадзеных, 700 суайчыннікаў. Вось толькі загаварылі, што такіх жыццёвых трагедый на самой справе значна болей, ужо каля 6 тысяч смерцяў ад Covid-19. Рэальныя лічбы ад нас хаваюць, бо яшчэ нядаўна той жа А. Лукашэнка не лічыў гэту пандэмію сур'ёзнай, усяляк памылкова даказваў, што гэта нейкі псіхоз і не больш таго. Напрыканцы жніўня ў Беларусі аднак штодзень фіксаваліся ў сярэднім да 200 падобных заражэнняў. У адзін з дзён быў зафіксаваны рэкордны прырост – адразу 247 інфіцыраваных за суткі.

На шчасце, напярэдадні восені ў нас на Пастаўшчыне не засталося ніводнага хворага каранавірусам. Фіксаваліся адзінкавыя выпадкі заражэння каранавірусам. Аднак падстаў для самазаспакаення няма. Сітуацыя можа абвастрыцца ў любы момант, як гэта здарылася ў Шклоўскім раёне на Магілёўшчыне, дзе за суткі выявілі адразу 11 інфікаваных. Варта кожнаму з нас памятаць, што цяпер у свеце памірае адзін чалавек ад каранавіруса праз кожныя 15 секунд. Глава Сусветнай арганізацыі аховы здароўя папярэджвае, што з новай пандэміяй чалавецтва будзе жыць амаль два гады, праўда, меней чым з эпідэміяй іспанскага грыпу, які бушаваў у 1918-1920 гадах. Да таго ж на нашым кантыненце, у Бельгіі і Нідэрландах ужо выявілі сёлета ўслед за Кітаем выпадкі паўторнага заражэння гэтай заразай.

Эксперты назвалі прычынамі гэтага найперш бяспечныя паводзіны саміх людзей і недастатковы кантроль над прыезджымі з іншых краін. Імунітэт ад новай інфекцыі, па словах вірусолагаў, захоўваецца толькі некалькі месяцаў. Пацвярджаецца яшчэ адна асаблівасць новай пандэміі, што больш пажылыя хворыя могуць справіцца з інфекцыяй, а больш малады са слабым арганізмам – развітацца з жыццём. Я размаўляў з некалькімі пастаўчанамі, якія перанеслі каранавірус у лёгкай форме, практычна без сімптомаў. Ніхто з іх не пацвердзіў, што пасля хваробы аднавіўся поўнасцю, пэўныя наступствы для здароўя засталіся. Беларускія медыкі нагадваюць, што другая хваля пандэміі ў нас можа пачацца ў лістападзе-снежні і яны да гэтага рыхтуюцца.

Вось чаму ўсе жыхары нашага рэгіёна павінны актыўна далучыцца да прадстаячай неўзабаве кампаніі вакцынацыі супраць грыпу, каб меней хварэць зімой. Спалучэнне сезоннага грыпу з каранавірусам уяўляюць яшчэ большую пагрозу людзям, асабліва пажылым, пацыентам з рознымі хранічнымі захворваннямі, дзецям і цяжарным жанчынам.

Вакцынацыя супраць грыпу гэтай восенню, як заяўляюць у Міністэрстве аховы здароўя Беларусі, можа станоўча адбіцца ў папярэджанні распаўсюджвання каранавірусу ў нашай краіне.

# Навукова-практычная канферэнцыя «Беларусь, Глыбоцкі край і Эдвард Вайніловіч» прайшла ў Глыбокім

Ксёндз-магістр Уладзіслаў Завальнюк, сённяшні пробашч касцёла Св. Сымона і Алены ў Мінску, кандыдат гістарычных навук, не забывае на Глыбокае, дзе служыў у 1983-1989 гг святарам. Тады бабулькі, пасля савецкага застою, масава ішлі ў глыбоцкі касцёл паглядзець на новага маладога пекнага ксяндза. Цяпер ён стаўся адным з арганізатараў навукова-практычнай канферэнцыі.

**5 верасня 2020 года ў Глыбокім прайшла навукова-практычная канферэнцыя «Беларусь, Глыбоцкі край і Эдвард Вайніловіч». Канферэнцыя праводзілася ў рамках выканання дзяржаўнай праграмы навуковых даследванняў на 2016-2020 гг. «Эканоміка і гуманітарнае развіццё беларускага грамадства».**

Арганізатарамі навуковага форума выступілі інстытут гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Рэспублікі Беларусь, ксёндз-магістр Уладзіслаў Завальнюк, пробашч касцёла Св. Сымона і Алены ў Мінску, кандыдат гістарычных навук, Міжнародны экалагічны інстытут імя А.Д. Сахарава БДУ, Глыбоцкі раённы выканаўчы камітэт.

У канферэнцыі ўдзельнічалі людзі, для якіх асоба Эдварда Вайніловіча з'яўляецца прыкладам служэння беларускаму народу. У форуме прынялі ўдзел шаноўныя госці — біскуп Віцебскі Алег Буткевіч, ксёндз-магістр Уладзіслаў Завальнюк, кс. Мікалай Ціхановіч, пробашч парафіі Святой Тройцы ў Глыбокім, пратаіерэй Міхаіл Ізаітка — благачынны цэркваў Глыбоцкага раёна, рабін Віцебска Малкіель Гаргодзэ.

На правах гаспадара прысутных прывітаў старшыня Глыбоцкага раённага выканаўчага камітэта Аляксандр Мікалаевіч Шубскі.

Затым выступіў намеснік дырэктара па навуковай рабоце інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук РБ Вадзім Леанідавіч Лакіза, які ўзгадаў унікальную гістарычную спадчыну Глыбоччыны, расказаў пра мэту правядзення канферэнцыі і працу інстытута.

Біскуп Алег Буткевіч падзякаваў арганізатарам форуму за запрашэнне і выбар месца правядзення, падкрэсліў міжканфесійнасць удзельнік. Іерарх адзначыў, што Эдвард Вайніловіч фундаваў будоўлю каталіцкіх касцёлаў і праваслаўных цэркваў, не адмаўляў у дапамозе іншым канфесіям. Таксама зазначыў, што асобу Вайніловіча вызначае мужнасць, хрысціянская пакора, яднанне сваіх цярпенняў з цярпеннямі Хрыста на крыжы. Біскуп Алег адзначыў каштоўную выхаваўчую ролю Эдварда Вайніловіча для сучаснай моладзі.

Пратаіерэй Міхаіл Ізаітка перадаў прывітальнае слова ад епіскапа Полацкага і Глыбоцкага Ігнація і падкрэсліў, што мы адзіны беларускі народ.




**Ксёндз Уладзіслаў Завальнюк атрымаў у падарунак карціну з выявай глыбоцкага Троіцкага касцёла.** *Фота Леаніда Юрыка.*





**Кіраўнік Глыбоцкага раёна Аляксандр Шубскі** (злева) **і біскуп Віцебскі Алег Буткевіч.**

Рабін Віцебска Малкіель Гаргодзэ шчыра падзякаваў за запрашэнне і расказаў, што яго сям'я паходзіць з Глыбокага і зазначыў, што іўрыт у пэўным сэнсе таксама паходзіць з Глыбокага.

Ксёндз-магістр Уладзіслаў Завальнюк падкрэсліў экуменічны дух Вайніловіча, чысціню веры, шанаванне людзей усіх веравызнанняў. Ён праз усё сваё жыццё пранёс словы «Няхай вернікі Беларусі ўсіх канфесій, кожны ў сваёй святыні, славяць аднаго Бога ў небе».

Падчас пленарнага пасяджэння з дакладамі і навукова-практычнымі работамі выступілі навукоўцы, настаўнікі і вучні, пераможцы конкурсу навукова-даследчых работ. Адбылося ўзнагароджванне вучняў і настаўнікаў дыпломамі і каштоўнымі падарункамі. Сярод тых, хто атрымаў падзяку інстытута гісторыі Акадэміі навук Беларусі за папулярызацыю гісторыка-культурнай спадчыны Глыбоцкага раёна, быў і пробашч парафіі Святой Тройцы ў Глыбокім ксёндз Мікалай Ціхановіч.

Гасцям і ўдзельнікам канферэнцыі была прапанавана аглядная экскурсія па горадзе Глыбокім. Затым, пасля абеду, прадоўжылася праца па секцыях. На заканчэнне форуму былі падведзены вынікі працы і адбылося ўрачыстае закрыццё канферэнцыі.

*Паводле Алены Пажога.*



**Для ўдзельнікаў канферэнцыі была падрыхтавана выстава «Малой радзіме прысвячаецца».** *Фота Леаніда Юрыка.*

## Эдвард Вайніловіч



**Эдвард Антоній Леанард Адамавіч Вайніловіч [13 кастрычніка 1847, Вялікая Сляпянка (цяпер у межах Мінска) — 16 чэрвеня 1928, Быдгашч, Рэспубліка Польшча] — беларускі і польскі палітычны і грамадскі дзеяч канца XIX - пачатку XX стагоддзяў.**

У 1905—1910 гг. на свае грошы пабудаваў у Мінску велічны каталіцкі касцёл Святога Сымона і Святой Алены (Чырвоны касцёл) у памяць аб сваіх заўчасна памерлых дзецях. Быў шчырым католікам, але і заўзятым прыхільнікам міжнацыянальнага і міжканфесійнага міру, свабоды сумлення; будаваў праваслаўныя цэрквы, стаў заснавальнікам камітэта абароны праў юрэяў і татар у Клецку.

У сваіх мемуарах Вайніловіч адзначаў, што род ягоны паходзіць з «беларускіх баяраў» («беларускай шляхты»). Паводле светапогляду ён заставаўся прыхільнікам «краёвасці», пра што гучна заявіў у 1907-м, калі стаў старшынёй Краёвай партыі Літвы і Беларусі, якая патрабавала аўтаноміі для нашых земляў у складзе імперыі. У 1918-м ён выступіў з ідэяй адраджэння Вялікага Княства Літоўскага, што на той момант зусім не здавалася фантазіяй — такія думкі агучваў і сам Пілсудскі.

Што ж наконт беларускага руху? Вядома, Вайніловіч яму сімпатызаваў, даючы грошы на культурныя праекты, маючы асабістыя знаёмствы сярод беларускіх дзеячаў, ведаючы мову. Адзінай праблемай, якая, відаць, і не дазволіла яму сысціся з маладымі беларускімі палітыкамі, быў іхны... сацыялізм. Пра гэта Вайніловіч таксама разважаў у сваіх мемуарах, згадваючы са скрухай, што кожная сустрэча з дзеячамі заканчвалася аднолькава негатыўна, калі размова заходзіла аб прыватнай маёмасці.

Разам з тым, ягоным пратэжэ і «палітычным вучнем» быў землеўласнік Раман Скірмунт, прэм'ер-міністр Беларускай Народнай Рэспублікі, які — ці не адзіны — выступаў за тое, каб нованароджаная рэспубліка развівалася ў капіталістычным рэчышчы. На жаль, адстаўка Скірмунта і канчатковая перамога сацыялістаў для Вайніловіча былі непрыемным ударам і фактарам асабістага расчаравання ў Беларускай Народнай Рэспубліцы.

Нягледзячы на палітычныя разыходжанні, падтрымаў Вайніловіч і случчакоў, якія ў лістападзе 1920-га правялі «Беларускі з'езд Случчыны» ў ягоным прыватным доме. Ці фінансаваў Вайніловіч непасрэдна ўдзельнікаў Слуцкага Збройнага Чыну? Невядома. Але калі б такія факты ўсплылі — наўрад ці б нехта здзівіўся. Прынамсі, гэта б цалкам уклалася ў жыццёвую філасофію Вайніловіча: «заўжды падтрымліваць сваіх, нават калі не супадаюць веравызнанне альбо палітычныя погляды».

Да канца жыцця ён быў прыхільнікам беларуска-польскай федэрацыі, выступаў супраць паланізацыі беларускага насельніцтва на «Усходніх крэсах», за вяртанне інтэлігенцыі ды эліты Заходняй Беларусі да беларускай ідэнтычнасці, але — выключна ў еўрапейскім культурным ключы.

Вайніловіч быў «сваім сярод чужых, чужым сярод сваіх»: чужым для зацятых палякаў, якія бачылі Беларусь выключна як прыдатак да Польшчы, чужым для беларускіх сацыялістаў, для якіх ён быў адно «панам» і «польскім землеўласнікам»... У гэтым ягоная асабістая трагедыя і, адначасна, трагедыя агульнабеларуская, калі галасы сапраўдных патрыётаў і гаспадароў заглушаюць крыкі папулістаў і мройнікаў.

*Уладзімір Скрабатун.*



# Супраць браканьера, які забіў трафейнага лася ў Докшыцкім раёне, распачалі крымінальную справу

**Позна ноччу 19 верасня ў вёсцы Варганы Докшыцкага раёна супрацоўнікі інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету спынілі пазадарожнік, у якім перавозілі мяса незаконна здабытага лася.**

У аўтамабілі «Ніва» 59-гадовага мясцовага жыхара выявілі больш за 200 кілаграм мяса, а таксама трафейныя рогі сахатага з сямю атожылкамі.

На месца здарэння выклікалі следчааператыўную групу, якая ўстанавіла, што мужчына, будучы паляўнічым, з зарэгістраванага стрэльбы ў перыяд з 18 па 19 верасня гэтага года, незаконна здабыў адну асобіну лася. Пры гэтым было ўстаноўлена, што ў паляўнічага не было дазволу на здабычу гэтай паляўнічай жывёлы і паляўнічай пуцёўкі да яго, паведамляе прэс-служба СК. Шкода, нанесеная прыродзе, склала 8100 рублёў. У дачыненні да мужчыны распачалі крымінальную справу па частцы 4 артыкула 282 КК - незаконнае паляванне, якая пацягнула прычыненне шкоды ў асабліва буйным памеры.

Ігар Арцюх





# Люстру за 1000 даляраў купіць Глыбоцкі райвыканкам. Дзе яе павесяць?

**Крыштальную люстру за 1000 даляраў купляе Глыбоцкі раённы выканаўчы камітэт.**

Закупка праводзіцца з адной крыніцы, люстра прызначана для залы ўрачыстай рэгістрацыі аддзела ЗАГС. Яна павінна быць выканана ў стылі ар-дэко мець дыяметр 650 міліметраў, вышыню 250 міліметраў і 17 патронаў для лямпачак з цокалем E14. Паставіць люстру, арыенціровачны кошт якой складае 2600 рублёў, павінны да 6 кастрычніка. Аплачваецца закупка з бюджэтных сродкаў.

*ННВ.*

# У Беларусі ўзровень мінімалкі ніжэйшы, чым ва ўсіх суседзяў

**У краінах Еўразвязу плануюць перагледзець мінімальны заробак, а ва Украіне яго ўжо падвысілі з 1 верасня (і цяпер ён даволі адчувальна апярэджвае беларускі).**

Журналісты параўналі «мінімалку» ў суседніх краінах з нашай.

У Беларусі мінімальны заробак у 2020 годзе складае 375 рублёў (летась – 330 рублёў). Наймальнікі не могуць плаціць менш за гэтую суму тым супрацоўнікам, якія працуюць на поўную стаўку.

**У Расеі** мінімальны памер аплаты працы з 1 студзеня гэтага года складае 12 130 расейскіх рублёў (412 беларускіх). Пры гэтым рэгіёны могуць вызначаць уласны памер мінімальнага заробку, галоўнае – каб ён быў не ніжэйшы за федэральны. Напрыклад, у Маскве гэта 20 195 рублёў (686 беларускіх), а ў Санкт-Пецярбургу – 19 000 рублёў (646 беларускіх).

**Ва Украіне** з 1 верасня мінімальны заробак павысіўся да 5000 грыўнаў (458 рублёў). Да гэтага ён складаў 4723 грыўны (432 рублі). Акрамя таго, на 2021 год запланаванае павышэнне мінімальнага заробку яшчэ на 30%. Так, з 1 студзеня гэтага года «мінімалка» ва Украіне павысіцца да 6000 грыўнаў (549 рублёў), з 1 ліпеня – да 6500 грыўнаў (595 рублёў).

**У Літве** мінімальны заробак з пачатку гэтага года складае 607 еўраў (1855 рублёў) «бруднымі». Летась «мінімалка» была роўная 555 еўраў (1696 рублёў). Цяпер у Літве абмяркоўваюць, на колькі павысіць гэты паказнік у наступным годзе. Прафзвязы прапануюць прыбаўку 46 еўраў (141 рубель), аднак, паводле падлікаў Міністэрства сацыяльнай абароны і працы, праз выкліканыя каранавірусам праблемы ў эканоміцы падняць мінімалку можна толькі на 4 еўры (12 рублёў). У выніку абмеркаванне пастанавілі адкласці на больш позні час.

**У Латвіі** «мінімалка» цяпер роўная 430 еўраў (1314 рублёў). Сёлета яе не павышалі, аднак з 1 студзеня 2021-га мінімальны заробак падвышаецца да 500 еўраў (1528 рублёў).

**У Польшчы** з пачатку 2020-га мінімальны заробак складае 2600 злотых (1767 рублёў). У наступным годзе яго плануюць павысіць да 2800 злотых (1903 рублі).

*nn.by*

# Белстат назваў асноўныя крыніцы даходаў беларусаў

**Паводле апошняга перапісу насельніцтва, больш за палову беларусаў атрымліваюць даход ад працы па найме, 28,3% з'яўляюцца пенсіянерамі, 24,5% – утрыманцаў.**

Такая інфармацыя змяшчаецца ў бюлетэні, апублікаваным на сайце Белстата. Працу па найме (акрамя працы ў асабістай дапаможнай гаспадарцы) у якасці крыніцы сродкаў да існавання ўказалі 4 821 124 чалавекі, або 51,2% насельніцтва Беларусі.

Такім чынам зарабляюць 53,7% мужчын і 49% жанчын. Самазанятасць (праца не па найме) прыносіць даход 400 065 жыхарам, з якіх амаль 70% – мужчыны. У тым ліку 17 999 жыхароў атрымліваюць сродкі да існавання ад працы ў асабістай дапаможнай гаспадарцы. Выпрацоўваюць тавары для ўласнага выкарыстання 8 561 чалавек. На пенсію жывуць 2 663 320 грамадзян. Пры гэтым 1 797 856 з усіх пенсіянераў – жанчыны.

Стыпендыю атрымліваюць 180 081 чалавек (у тым ліку 101 110 хлопцаў, дзяўчат менш), дапамога па беспрацоўі – 60 464 (39 321 мужчына), дзяржаўныя дапамогі (акрамя дапамогі па беспрацоўі) – 299 187 (255 398 жанчын), іншыя віды дапамог і дапамогі – 41 067 чалавек. Яшчэ 0,2% жыхароў атрымліваюць даходы ад здачы ў арэнду маёмасці, дывідэнды альбо іншыя выплаты па ўкладах і каштоўных паперах. І менш як 4,5 тыс. чалавек існуюць у тым ліку за кошт пазыкі або выкарыстання зберажэнняў, продажу маёмасці. Іншыя крыніцы назвалі 211 606 чалавек.

Сярод мужчын працэнт утрыманцаў больш, чым сярод жанчын, – 26,9% супраць 22,4%. Адзначаецца, што рэспандэнты маглі ўказваць некалькі крыніц даходаў. Таму, напрыклад, праца па найме з'яўляецца асноўнай крыніцай сродкаў да існавання для меншага ліку людзей – 43,1% насельніцтва. А пенсія з'яўляецца такой крыніцай для 25,1% грамадзян.

*Белстат.*

## МНС інфармуе на 29.09.2020 года:

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 642;
Гібель людзей – 71, з іх дзяцей няма;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 22;
Гібель людзей – 3, з іх дзяцей няма

У **2019** годзе ў раёна адбылося **37** пажараў, на якіх загінула **6** чалавек.
За **2016 год** у раёне адбылося **20** пажараў, на якіх загінула **6** чалавек.
За **2015 год** у раёне адбылося **36** пажараў, на якіх загінула **3** чалавекі.

# Сярэдні заробак у Беларусі знізіўся на 11 рублёў

**Сярэдні заробак у жніўні «бруднымі» склаў 1276,4 рубля, паведамляе Белстат.**

Гэтая на 11,1 рубля менш, чым у ліпені.

Прычым заробак знізіўся як у Мінску (да 1766,2 рубля), так і ў абласцях, акрамя Віцебскай, дзе амаль застаўся на ранейшым узроўні (вырасла прыкладна на 30 капеек).

Звесткі аб сярэднім заробку публікуюцца да вылічэння падаходнага падатку (13%) і абавязковых страхавых узносаў у Фонд сацыяльнай абароны (1% з заробкаў работнікаў). Гэта значыць, што сярэдні заробак у жніўні пасля ўсіх абавязковых вылікаў, склаў каля 1098 рублёў.

*NN.by*



